Але!

# Каб добрыя словы ды Богу ў вушы

## Эпісталярны жанр у сённяшнім перыядзе творчасці Івана Шамякіна

Бадай, не памылюся, калі скажу: народны пісьменнік Іван Шамякін быў адзіным з нашых літаратараў, хто аператыўна, ужо праз дзэкаду пасля травеньскага рэферэндуму апублікаваў адкрыты ліст да Прэзідэнта з канкрэтнымі прапановамі па заканадаўчай падтрымцы беларускай мовы. Памятаецца, узрадаваўся гэтаму і стаў уважліва сачыць за "Звяздой", дзе быў надрукаваны згаданы ліст, а праз паўгода і другі (галоўным чынам, аб цяперашнім становішчы беларускай літаратуры і яе творцаў). Але пра якое-небудзь рэагаванне адрасата ў адказ на "крык душы" народнага пісьменніка не было ні слыху, ні дыху. І гэта нягледзячы на тое, што Іван Пятровіч, можна сказаць, авансам запісаў Аляксандра Рыгоравіча ў рупліўцы беларускага слова. Цытую першы ліст: "Не сумняваюся, што Вы, глыбокі і актыўны палітык, не менш мяне заклапочаны станам роднай мовы".

Не, як вынікала з "Ненавагодніх думак" Івана Шамякіна, якія потым з'явіліся ў газеце "Літаратура і мастацтва", на лісты адказаў не было. Праўда, пісьменніка ўсцешыла выказванне кіраўніка дзяржавы, што на Беларусі падтрымка патрэбная беларускай, а не расійскай мове. І ён зноў звярнуўся да Аляксандра Рыгоравіча, на гэты раз праз "ЛіМ": "Таварыш Прэзідэнт!.. Зрабіце ж, калі ласка, канкрэтныя крокі для ўсталявання сапраўднага раўнапраўя абедзвюх моў..." З сумам падумаў тады: каб Вашы словы, паважаны Іван Пятровіч, ды Богу ў вушы. Бо, нягледзячы на абяцанні наконт падтрымкі роднай мовы (іх, здаралася, агучваў і міністр адукацыі В.Стражаў), за два з паловай гады сітуацыя толькі пагаршалася.

У дзень свайго 75-годдзя Іван Шамякін быў прыняты Прэзідэнтам краіны. Паводле інфармацыі БелТА, гутарка была аб праблемах беларускай літаратуры. Але, на мой розум, не маглі не закранацца і моўныя пытанні (якая ж літаратура без мовы?). І ў мяне ўсё яшчэ тлела надзея, што не сёння, дык заўтра Іван Пятровіч распавядзе пра лёс сваіх ідэй, сама меней, чытачам тых газет, на старонках якіх яны былі абнародаваны. Надзея, аднак, амаль не патухла, калі аднойчы ўбачыў яго подпіс пад адкрытым лістом Прэзідэнту групы "заслужаных" і "народных", накіраваным, па сутнасці, супраць гістарычнай праўды, а значыць, і супраць праўды пра нашу мову.

Міжвольна паўставалі пытанні: магчыма, пад час гутаркі ў Івана Шамякіна развеяўся нядаўні непакой пра стан мовы? Або проста вырашыў "не падыгрываць нацыянал-экстрэмістам"? Інакш кажучы, тым, хто шануе матчына слова, сваю культуру і гісторыю, адстойвае дэмакратыю і незалежнасць краіны? Выходзіць, адбылася нейкая метамарфоза? Што ж, назіралі мы падобныя метамарфозы і з іншымі дзеячамі. З тымі ж дэпутатамі.

Я далёкі ад таго, каб шукаць тут нейкія паралелі. Але тэлеграма Івана Шамякіна, накіраваная Прэзідэнту адразу пасля "беларускага веча", наводзіла на невясёлыя думкі. З павагай адносячыся да яго палітычных прыхільнасцяў, не магу не зазначыць: "адабрамс", што прагучаў у дэпешы, можна расцэньваць і як падтрымку, няхай і ўскосную, таго, чым у самы час было абурыцца — маю на ўвазе поўнае панаванне на ўсебеларускім (!) народным сходзе мовы суседняй нацыі. Адзіны, хто "мовай маці азваўся няўдумна", чытаю пранікліва радкі "Балады аб дваццаці шасці" Ніла Гілевіча, быў "суайчыннік з далёкага княства".

І глядзеў на яго, як на дурня,
З маналітнай пагардаю сход.

Як ні парадаксальна, але ў даваенны сталінскія часы на розных мерапрыемствах нават у Маскве з удзелам беларусаў наша мова гучала, пэўна, часцей, чым цяпер у Менску на самых высокіх дзяржаўных сходах, пасяджэннях, нарадах, сустрэчах і да т.п. Звярнуўшыся, напрыклад, да стэнаграфічнай справаздачы XVIII з'езда ВКП(б) (1939 г.), можна сустрэць у сярэдзіне тэкста прывітальнага выступу Л. Александроўскай такую рэмарку: "Далее артистка Александровская говорит на белорусском языке". (Сведкі сцвярджаюць, што гэта зроблена па патрабаванні Сталіна). А праз год пад час прыёму ўдзельнікаў дэкады беларускага мастацтва ў Крамлі ўжо ўся прамова нашай знакамітай артысткі прагучала па-беларуску ("Правда" за 18 чэрвеня 1940 г.). Або вось нумар "Известий" за 3 лістапада 1939 года з матэрыяламі нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, на якой Заходняя Беларусь была ўключана ў склад тагачаснага Саюза. Большасць яе прадстаўнікоў гаварыла з высокай трыбуны на беларускай мове, на ёй жа надрукаваныя іх выступы і ў газеце (з перакладам на расійскую).

Зразумела, што Сталін, які прысутнічаў на ўсіх згаданых пасяджэннях і прыёме ў Крамлі, "клапаціўся" калі-нікалі аб беларускасці нашага краю толькі для праформы. Зараз жа высокія кіраўнікі суверэннай (!) Беларусі і дзеля прыліку не спрабуюць нават карыстацца мовай карэннай нацыі дзяржавы. Таму і не спраўдзіліся спадзяванні Івана Пятровіча на тое, што спатрэбіцца прапанаваны ім "рэцэпт" (пазычаны ў бельгійскіх заканадаўцаў), згодна з якім для заняцця дзяржаўных пасад на ўсіх узроўнях трэба абавязкова дасканальна ведаць абедзве дзяржаўныя мовы?

Тым не менш народны пісьменнік нядаўна павядаміў у газеце "Народная воля", што напрыканцы мінулага года паслаў Прэзідэнту яшчэ адно пісьмо (відаць, ужо не адкрытае), бо дагэтуль, маўляў, яго "голас не пачуты". Гаворка ў ім зноў аб "бельгійскім варыянце". "Блажен, кто верует", — як кажуць расійцы. Бо сапраўды: і ў новай жа Канстытуцыі беларуская мова прызнаецца за дзяржаўную.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ.**

*Грамадскі рух*

# "Важна не забываць, дзеля чаго існуе арганізацыя"

*Чаму Таварыства беларускай мовы губляе свой уплыў? Якія арганізацыі займаюць яго месца ў грамадскай свядомасці? Чым займаюцца людзі, якія калісьці актыўна дзейнічалі ў ТБМ? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні наш карэспандэнт паспрабаваў атрымаць ад чалавека, дастаткова добра абазнанага ў справах не толькі ТБМ, але і іншых грамадскіх арганізацыяў.*

*Сяргей Альфер мае 43 гады і з'яўляецца вядучым навуковым супрацоўнікам НДІ фізіка-хімічных праблемаў БДУ. Ён — былы намеснік старшыні Рады БНФ Маскоўскага раёна сталіцы, а з 1993 года — старшыня Рады ТБМ гэтага ж раёна. Сёння Сяргей Альфер — кіраўнік Бюро няўрадавых аб'яднанняў пры Фондзе імя Сапегі.*

**— Чым выкліканы інтарэс Фонду Сапегі да грамадскага сектара?**

— Бюро было створана ў канцы 1995 года. Але фактычна яно пачало працаваць амаль за год да таго, калі мы атрымалі грант ад фонду "Еўразія" на падтрымку няўрадавых арганізацыяў.

Падтрымка намі "трэцяга сектара" — няўрадавых арганізацыяў — была абумоўлена нашым жаданнем спрыяць усталяванню грамадзянскай супольнасці. Гэты кірунак дзейнасці нашага фонду быў прадугледжаны ў яго статуце, гэтак сама як абарона правоў чалавека ды іншыя. Але дагэтуль яму надавалася менш увагі.

Рэч у тым, што наша арганізацыя мае вялікія напрацоўкі ў сферы рэгіянальнага самакіравання, менавіта яму мы надавалі прыярытэт адносна нядаўна. Але, як высветлілася, мясцовае самакіраванне шчыльна звязанае з іншымі формамі грамадскай актыўнасці на месцах. Бо праблемы, якія паўстаюць перад людзьмі, мусяць вырашацца не толькі намаганнямі ўладных, але і іншых структураў, якія будуць прадстаўляць і абараняць інтарэсы грамадзян. Гэткімі структурамі і з'яўляюцца грамадскія арганізацыі.

**— Якія асноўныя мэты дзейнасці Бюро?**

— Асноўная мэта адна — ўсебаковая падтрымка грамадскіх ініцыятываў. А спосабаў яе ажыццяўлення шмат. Наш фонд мае структуру разгалінаваную, як у ніводнай іншай грамадскай арганізацыі — пяць абласных філіялаў і каля двух дзесяткаў рэгіянальных прадстаўніцтваў. Мы маем добрую тэхнічную базу. І кожны з нашых філіялаў гатовы даць магчымасць бясплатна карыстацца імі іншым няўрадавым арганізацыям дэмакратычнага кірунку. Мы робім гэта і дзеля таго, каб падтрымліваць кантакты з грамадскімі арганізацыямі і мець магчымасць супрацоўнічаць з імі.

Маючы добрую юрыдычную службу, мы аказваем "трэцяму сектару" юрыдычную дапамогу ў справе падрыхтоўкі статутных дакументаў, рэгістрацыі новых арганізацыяў. Калі ёсць магчымасць, нашае Бюро дапамагае іншым супольнасцям і фінансава — аплачвае рэгістрацыйныя ўзносы ці спрыяе пошуку фундатараў, якія могуць гэта зрабіць.

У 1995-1996 гадах нашую падтрымку ў той ці іншай форме скарысталі каля двух з паловай дзесяткаў грамадскіх арганізацыяў.

**— Якім з іх вашае Бюро надае найбольшую ўвагу?**

— Летась былі зарэгістраваны 215 краёвых арганізацыяў і 237 рэгіянальных. Дагэтуль большасць нядаўна створаных арганізацыяў мела статус рэспубліканскіх, але цяпер мы назіраем іншую тэндэнцыю — рост колькасці мясцовых. Таму найперш мы спрыяем рэгіянальным структурам. Бо ў сталіцы, акрамя нашага, існуюць яшчэ два цэнтры падтрымкі недзяржаўных структур "United way — Беларусь" і "Супольнасць". Затое на перыферыі, дзе іх уплыў меншы, людзі не маюць магчымасці ажыццявіць свае грамадскія ініцыятывы. Менавіта на выпраўленне гэткага стану скіроўваюцца цяпер нашыя рэгіянальныя прадстаўніцтвы.

**— Як Вы заўважылі, існуюць і іншыя арганізацыі, арыентаваныя на падтрымку грамадскага руху і ўзмацненне яго ролі ў дзяржаве. Яны паўтараюць адна адну ці маюць нейкія адрозненні?**

— Пэўна ж, адрозненні ў дзейнасці арганізацыяў ёсць. Грамадскі сектар у нашай краіне яшчэ не хутка запоўніцца. Таму пэўны час у сваёй дзейнасці нашыя арганізацыі не будуць паўтараць адна адну. Да таго ж, кожная з арганізацыяў мае сваё кола грамадскіх аб'яднанняў, з якімі супрацоўнічае.

З другога боку, мы — Фонд Сапегі, "United way — Беларусь", цэнтр "Супольнасць", — маем шмат агульнага. Асноўнае — гэта скіраванасць на дапамогу іншым грамадскім арганізацыям, спрыянне развіццю "трэцяга сектара" ў Беларусі.

Бюро грамадскіх арганізацыяў фонду Сапегі розніцца ад іншых тым, што арыентуецца ў меншай ступені на арганізацыі нацыянальныя і культурніцкія кшталту ТБШ ці ТБМ, а ў большай — на тыя, існаванне якіх ёсць чыннікам утварэння грамадзянскай супольнасці. Хаця, мушу заўважыць, мы ніколі не адмаўляем у дапамозе нацыянальным арганізацыям. Бо ж няма чаго хаваць, усе мы выйшлі з Народнага Фронта — адзінай у свой час альтэрнатыўнай уладным грамадзянскай структуры.

Як мы ставімся да таго, што існуе некалькі падобных нашай арганізацыяў? Яны ў нечым дапаўняюць адна адну, дапамагаючы вызначыць кірункі актыўнай дзейнасці. Але ёсць і недахопы. Часам розныя арганізацыі дублююць свае праекты, і таму, бывае, праца іх у справе лабіравання нейкіх грамадскіх інтарэсаў аказваецца менш эфектыўнай, чым яна магла б быць. Відавочна, ім давядзецца каардынаваць свае дзеянні.

**— Вы казалі аб колішняй прыналежнасці значнай часткі сяброў фонду і вашага Бюро да палітычных арганізацыяў. Чым, на Ваш погляд, выкліканы працэс адыходу людзей ад палітыкі і рост іх цікаўнасці да грамадскіх справаў і якія вынікі ён можа мець?**

— Апазіцыйныя палітыкі сёння не ўваходзяць ва ўладныя структуры. Яны адсунутыя ад працэсу кіравання дзяржаваю больш, чым некалькі гадоў таму.

Аднак застаюцца надзённымі патрабаванні ўсталявання ў краіне дэмакратыі, абароны правоў грамадзян, стварэння цывілізаванага грамадства. Значная частка людзей, якія імкнуліся ажыццявіць гэтыя патрэбы шляхам удзелу ў палітычных партыях і рухах, сёння разумее: дамагацца свайго магчыма і іншымі спосабамі, якія не будуць дыскрэдытаваць іх у вачах людзей з постсавецкім мысленнем. Адзін з гэтых спосабаў — дзейнасць у сферы непалітычных і няўрадавых арганізацыяў, якія па ўсім свеце з'яўляюцца базай грамадскай супольнасці.

Патлумачу гэта на прыкладзе арганізацыі, якую прадстаўляе ваша газета. Праблемай для вялікай колькасці людзей стала немагчымасць атрымання іхнімі дзецьмі адукацыі па-беларуску. Раней яны маглі спрабаваць вырашаць яе, звяртаючыся да сваіх дэпутатаў у Саветах розных узроўняў — найчасцей прадстаўнікоў нейкіх палітычных арганізацыяў. Пасля зменаў, што адбыліся ў краіне летась, гэтая праблема абвастрылася яшчэ больш, затое ранейшы шлях яе вырашэння аказаўся закрытым. У прадстаўнічых органах, легітымнасць якіх можна аспрэчыць, з'явіліся іншыя людзі, а значная частка выбаршчыкаў наогул не мае сваіх прадстаўнікоў у органах улады. Выйсцем з гэткага становішча можа быць і часам робіцца выстаўленне людзьмі, правы якіх парушаюцца, нейкіх палітычных патрабаванняў, але хто іх пачуе? Ёсць і іншае выйсце: стварэнне новых ці актывізацыя існуючых грамадскіх аб'яднанняў, якія мусяць прадстаўляць і абараняць інтарэсы групаў грамадзян, што іх утвараюць, напрыклад, таго ж ТБМ. Выгада гэткага спосабу дзеяння яшчэ і ў тым, што падобныя ўтварэнні могуць яднаць у сваіх шэрагах людзей розных палітычных поглядаў, належных да розных сацыяльных слаёў. Гэта дазваляе значна пашырыць іх склад і ступень уплыву на справы.

**— Бюро па няўрадавых аб'яднаннях пры Фондзе імя Сапегі абвяшчае гатоўнасць аказання дапамогі ўсім грамадскім арганізацыям. Разам з тым, сёння ў Беларусі існуе выразная тэндэнцыя не толькі вызначэння стаўлення да іх уладаў у залежнасці ад пазіцыі гэтых арганізацыяў, але і наогул падпарадкавання трэцяга сектара ўплыву дзяржавы. Такім чынам, ёсць арганізацыі праўрадавыя — "Прямое действие", Беларускі саюз моладзі ды іншыя — і незалежныя, сярод якіх можна назваць і ТБМ. Ці збіраецеся вы, аказваючы ім падтрымку, зважаць на гэтую акалічнасць?**

— Заканадаўства не рэгламентуе справы падтрымкі ўрадам тых ці іншых арганізацыяў, таму блізкія яму будуць, безумоўна, мець падтрымку. Што тычыцца іншых, дык самастойнасць мыслення сёння выклікае патрэбу самастойнага фінансавання. У выніку таго амаль увесь актыўна дзеючы незалежны грамадскі сектар Беларусі фінансуецца не ўрадам ці ўнутранымі спонсарамі, якія слушна перасцерагаюць сябе ад магчымага ў выніку таго-ўціску, а замежнымі арганізацыямі, якія выдаткуюць на гэта спецыяльныя гранты.

Што тычыцца нас, дык Бюро выразна арыентуецца на супрацоўніцтва з грамадскімі аб'яднаннямі, якія не падпарадкаваныя нікому. Іншая рэч тое, што падтрымка, якую мы можам ім аказваць, сёння з'яўляецца амаль выключна тэхнічнай і юрыдычнай. У 1995 годзе мы яшчэ маглі знаходзіць для іх фундатараў у межах Беларусі, а летась ужо не.

**— Што, акрамя неспрыяння ўладаў, з'яўляецца, на Вашую думку, прычынай падзення ўплыву часткі грамадскіх арганізацыяў, напрыклад, таго ж ТБМ, актывістам якога Вы былі?**

— Гэта нармальны працэс. Узгадайце, колькі новых арганізацыяў было створана ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў! Яны ствараліся ў іншай краіне з іншымі законамі і ладам, у іншых, чым цяперашнія, умовах, людзьмі, якія не мелі досведу, які маюць цяпер. Нічога дзіўнага ў тым, што значная іх частка аказалася мала прыстасаванай да сённяшніх рэаліяў, я не бачу.

Акрамя таго, існуе праблема ўзаемадзеяння кіраўніцтва арганізацыі з яе сябрамі. ТБМ стваралася ў 1989 годзе ў СССР на ўзор і падабенства іншых падобных арганізацыяў таго часу і атрымала гэткую ж, як і яны, пірамідальную структуру: рэспубліканская — абласная — гарадская — раённая рады — першасная суполка. Першасныя суполкі ствараліся паводле вытворчага прынцыпу — пры школах ці прадпрыемствах. Магу назваць яшчэ шэраг асаблівасцяў Таварыства, прызначэннем якіх было ўсталяванне ў ім парадку, у КПСС называнага "дэмакратычным цэнтралізмам" — прапіхвання ўніз інтарэсаў вярхоў, калі ўсе ініцыятывы паходзяць выключна зверху, а ніжэйшыя структуры практычна адсунутыя ад вызначэння мэтаў і спосабаў дзейнасці арганізацыі. Гэткая структура, як і КПСС, магла нармальна існаваць толькі ва ўмовах найбольшага спрыяння ўлады — узгадайце Закон аб мовах. Пасля таго, як выкананне закона і дзяржаўнае фінансаванне звязаных з ім праграм (выканаўцам значнай часткі якіх было Таварыства) было спынена, ТБМ значна зменшыла актыўнасць сваёй дзейнасці. Звярніце ўвагу: Таварыству не працідзейнічалі, а проста перасталі дапамагаць. Пасля таго, як не стала ўстановак зверху, спынілася праца ўнізе. Таварыства — рэспубліканская арганізацыя — набыло выгляд хутчэй нерэгулярна дзеючага менскага гарадскога клуба аматараў мовы, а таксама часткі рэгіянальных суполак.

Таварыства мела каля дзесятка камісіяў, з якіх хоць неяк працавалі мала якія, у прыватнасці, таму, што сферы іх кампетэнцыі перасякаліся. Гэта значыць — Таварыства займала нішы дзесяці іншых арганізацыяў, якія, існуючы самастойна, маглі б даць плён.

А калі бюракратызаваная арганізацыя не выконвае сваіх функцыяў, найбольш актыўныя яе сябры, не маючы магчымасці рэалізаваць свае ідэі ў яе межах, пераходзяць у іншыя структуры альбо ствараюць новыя — так мноства былых актывістаў ТБМ перайшло ў Таварыства беларускай школы, цэнтр "Супольнасць", Фонд Сапегі ды ў мноства іншых арганізацыяў. Яны абралі свой шлях і назад ужо не вернуцца.

**— 18 студзеня ў Менску намаганнямі некалькіх арганізацыяў, у тым ліку і вашай, адбылася Першая канферэнцыя няўрадавых арганізацыяў Беларусі. Ці не была яна спробаю менавіта аб'яднання калі не іх саміх, дык, прынамсі, іх намаганняў у агульных справах?**

— Назіраючы за дзейнасцю "трэцяга сектара" Беларусі, мы заўважылі, што пачынаюць дубліравацца пэўныя мерапрыемствы. Мы палічылі, што да таго, каб не марнаваць сілаў, нам патрэбная каардынацыя дзейнасці, магчыма, стварэнне сеткі абмену інфармацыяй. Гэта дазволіць актывізаваць свае намаганні ў справе пабудовы цывільнага грамадства.

Таму разам з іншымі — Асацыяцыяй "Деловая инициатива", НЦСД "Усход-Захад", Беларускай асацыяцыяй журналістаў, Беларускім Хельсінкскім камітэтам, Цэнтрам "Беларуская перспектыва", сацыялагічнай лабараторыяй "Новак", Беларускай асацыяцыяй маладых палітыкаў, Цэнтрам "Супольнасць", Міжнародным гуманітарным фондам, Фондам "Заканадаўчая ініцыятыва", Асацыяцыяй "Зямельная рэформа", Фондам "Адкрытае грамадства", Фондам дэмакратыі і парламентарызму ды іншымі — утварылі Клуб лідэраў беларускіх няўрадавых арганізацыяў. Канферэнцыя, у якой удзельнічалі прадстаўнікі больш ста дваццаці грамадскіх аб'яднанняў, была першай яго акцыяй. Працягам яе будзе Асамблея дэмакратычных грамадскіх арганізацыяў Беларусі, якая адбудзецца 22 лютага ў Менску. У яе аргкамітэт уваходзяць і прадстаўнікі нашага клуба.

**— На Ваш погляд, нармалёвае грамадства створаць не палітыкі, а грамадскія дзеячы?**

— І грамадскія дзеячы таксама. Важна толькі, каб яны не забывалі, дзеля чаго існуюць іх арганізацыі і чые інтарэсы яны прадстаўляюць.

**Запісаў У.ПАНАДА.**

Культурна-асветніцкая штотыднёвая беларуская газета
Наша Слова
Our Word
Unser Wort
Naša Słowa
Падпісны індэкс 63865
ЗАСНАВАЛЬНІК: Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Газета зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце Рэспублікі Беларусь па друку. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 83.
Рэдакцыйная калегія:
Эрнэст ЯЛУГІН — галоўны рэдактар
Лявон БАРШЧЭЎСКІ, Янка БРЫЛЬ, Анатоль БУТЭВІЧ, Радзім ГАРЭЦКІ, Ніл ГІЛЕВІЧ, Вольга КУЗЬМІЧ, Уладзімір ЛАМЕКА, Уладзімір ПАНАДА, Зміцер САНЬКО, Здзіслаў СІЦЬКА, Алег ТРУСАЎ, Генадзь ЦЫХУН.
Адказны сакратар — Уладзімір АНІСКОВІЧ
Кампутарны дызайн — Ірына ДЗІВІНА
Кампутарны набор: Тамара АЎСЯННІКАВА, Вера ВАРАНЦОВА
Тэхнічны рэдактар Валянціна КАРАТКЕВІЧ
Карэктары: Жанна КАЗЛОЎСКАЯ, Генадзь КАЖАМЯКІН.
Адрас рэдакцыі: 220029, г. Менск, вул. Чычэрына, 1, 3-і паверх.
Тэлефон: 233-17-83.
Кампутарнае забеспячэнне пры падтрымцы Беларускага аддзялення Фонду Сораса.

*Гісторыя ў рэчах*

## Адкуль пячатка?

Кожны сустракаўся ў сваім жыцці з неабходнасцю прыкласці пячатку да якой-небудзь паперкі. Пасля такой нескладанай працэдуры апошняя ператвараецца ў якасна новую рэч — ДАКУМЕНТ.

Калі ж з'явіліся першыя пячаткі? Аказваецца, вельмі даўно, аж у VII — V тысячагоддзях да нашае эры. Найбольш старажытныя пячаткі знойдзеныя на тэрыторыі сучаснай Сірыі, Палесціны, Малой Азіі і інш. У XVIII ст. канчаткова афармляецца і спецыяльная навука, якая вывучае пячаткі. Гэта — сфрагістыка. Да нядаўняга часу яна была зусім у занядбаным стане. Дарэмна.

Вартасць помнікаў сфрагістыкі цяжка пераацаніць. Па іх можна прасачыць ледзь не ўсю гісторыю краіны, а таксама і родныя (генеалагічныя) сувязі. Для іх вывучэння старажытныя пячаткі вельмі часта з'яўляюцца адзінай крыніцай. Саму пячатку зручна вывучаць па штэмпелі. Штэмпель выраблялі з розных металаў, найбольш з жалеза, медзі, бронзы. У час раскопак старажытнага Бярэсця знойдзена пячатка, вытачаная на такарным станку з рога аленя (можа, лася). Найбольш распаўсюджаным матэрыялам для пячатак быў воск. Побач з васковымі сустракаліся пячаткі, вырабленыя з хлебнага мякіша або цеста. Цікава было б паглядзець на іх! А адцісуць пячатку на хлебным мякішы можна паспрабаваць і сёння ў хатніх умовах: для гэтага неабходны кавалак хлеба і самаробная пячатка з цвёрдага матэрыялу. Дзесьці ў XVI — XVII ст.ст. пячатка пачала афарбоўвацца ў розныя колеры. Колер афарбоўкі нясе пэўную інфармацыю аб уладальніку пячаткі. Чырвоны колер уласцівы для вялікакняжацкіх пячатак, пячатак установ дзяржаўнай улады або яе прадстаўнікоў, заможных магнатаў. Зялёны сустракаецца ў гарадскіх канцылярыях. Ім карысталіся мяшчанства, шляхта. Чорны колер характэрны для пячатак духавенства, а воск натуральнага колеру (або бясколерны) распаўсюджваўся ў асноўным сярод прыватных асоб. Ёсць выпадкі карыстання блакітным воскам.

Цікавымі з'явамі наконт пячатак з'яўляюцца выпадкі іх згубы, страты ці фальшэрства. Пячаткі гублялі не толькі іхнія ўладальнікі, здаралася, што яны станавіліся аб'ектам крадзяжу. Вядомыя сітуацыі, калі былі пакараныя за крадзеж шэсць злачынцаў: двое атрымалі па 200 дубцоў публічна, кожны, два другія — па 100 публічна, апошнія два — па 50, але не публічна. Было нават уведзена пакаранне смерцю для тых, хто падрабляў пячаткі. Але кажуць, што артыкул аб смяротным пакаранні не выконваўся нават тады, калі быў прыняты. Сведчанне, з аднаго боку, гуманнага падыходу, з другога — магчыма, патрэба ў падобных віртуозах нават у органаў выканаўчай улады. Урэшце, таленавітага падробшчыка было выгадней пажыццёва трымаць за кратамі, карыстаючыся яго адмысловымі здольнасцямі.

**Павел ЕПІХАЎ,**
**студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры.**

*У свеце*

## ЛАЦІНУ ВУЧАЦЬ АХВОТНЕЙ

Пакуль у нас школьнікаў усімі сродкамі натхняюць вучыць расійскую мову, а самі яны інстынктыўна імкнуцца авалодаць англійскай, на Захадзе прыярытэты іншыя. Што да Злучаных Штатаў Амерыкі, то ўсё болей, асабліва ў каледжах, на першае месца выходзяць па папулярнасці мовы кітайская ды арабская замест нядаўніх фаварытаў — французскай, нямецкай і расійскай. Па звестках, прыведзеных газетай "Аргументы и факты", вынікі апытання навучэнцаў 2722 каледжаў ЗША былі для даследнікаў проста нечаканымі. Колькасць тых, хто вывучае кітайскую мову, павялічылася апошнім часам на 36 %, арабскую — на 28 %.

Інакш, чымся 5 гадоў таму, выглядае зараз сітуацыя з французскай, нямецкай і асабліва з расійскай мовамі. Цікаўнасць да іх рэзка знізілася. Нават з вывучэннем італьянскай і лаціны сітуацыя не такая драматычная. Цікаўнасць да французскай і нямецкай моваў знізілася да 25 і 28 працэнтаў адпаведна, а да расійскай — увогуле да 45 %.

Сярод амерыканскіх студэнтаў самай папулярнай замежнай мовай застаецца чамусьці іспанская, але гэта не азначае, што яны грэбуюць іншымі мовамі, якія ўключаныя ў лік абавязковых прадметаў вучэбнай праграмы.

*Замежжа*

# ЛЮБОЎ, УВАСКРОШАНАЯ Ў ВЕРШАХ

**9 лютага спаўняецца 90 гадоў ад дня нараджэння латышскай паэткі Мірдзы Кемпэ, шчырага сябра Беларусі.**

Вось як народны паэт Беларусі Пімен Панчанка паказаў вобраз латышскай паэткі Мірдзы Кемпэ: "Ты была добрая, вясёлая, дружалюбная, таварыская, вельмі патрабавальная і да сябе, і да іншых. Ты магла ў гневе нахмурыць бровы і зрэзаць нахабнага хама, злоснага мешчаніна, несумленнага балбатуна ці салодкага і хітрага прыстасаванца. Ты сама горда заявіла: "Мне шчасця лёгкага не трэба". Ты светла і пяшчотна сказала: "Я — жанчына!"

Давайце коратка прасочым лёс лаўрэата Дзяржпрэміі СССР і рэспублікі, народнай паэткі Латвіі.

Нарадзілася Мірдза ў сям'і пісца і агента лесапрамысловай фірмы Яныса Кемпэ 9 лютага 1907 года ў Ліепаі. Бацька ейны, хаця і не меў вышэйшай адукацыі, валодаў расійскай мовай, самавукам адолеў французскую і нямецкую; шмат чытаў, граў на скрыпцы...

Вялікую ролю ў яе жыцці адыгралі гімназійныя гады, калі Мірдза змагла пазнаёміцца з сусветнай і латышскай літаратурамі і мастацтвам. Яшчэ па бацькавых самавучках яна напачатку вывучыла расійскую і французскую мовы, а пазней — нямецкую і англійскую.

Калі ў пачатку 30-х гадоў М. Кемпэ была вядомая ў латышскім літаратурным асяроддзі найбольш як перакладчыца з французскай і расійскай моваў, то да канца гэтага дзесяцігоддзя яна надрукавала 18 вершаў, якія сведчылі, што ў літаратуру прыйшоў самабытны паэт.

Потым — вайна, эвакуацыя... Пад час вайны М. Кемпэ пачала перакладаць творы паэтаў з літаратур народаў, што ўваходзілі ў склад СССР, у тым ліку і беларускіх.

Па вяртанні ў пасляваенную Латвію М. Кемпэ давялося перажыць смерць маці і мужа Эрыка. Але жанчына знайшла ў сабе сілы не ўпасці ў адчай. Ад яго яна ратавалася творчай працаю. З 1946 года адзін за адным пачалі выходзіць яе зборнікі паэзіі — "Ранішні вецер", "Слова пра дружбу", "Свету і жыццю", "Вершы", "Каханне", "Я не магу маўчаць", "Вечнасць імгненняў", "Святло ў камені", "Шлях чалавека", "Бурштынавае люстэрка". У 1973-м — за год да смерці — выйшла апошняя прыжыццёвая кніга "Шыпшына".

У паэткі была вялікая цікавасць да Індыі, да культуры і звычаяў гэтай краіны. Многія вершы, прысвечаныя Індыі, былі там перакладзеныя на мясцовыя мовы і там паэтку пачалі называць "сястрой Індыі ў далёкай Латвіі". Смерць Джавахарлала Нэру паэтка перажывала, як асабістую трагедыю. Пазней яна сустрэлася ў Маскве з Індзіраю Гандзі, потым мела з ёй ліставанні. Універсітэт Вішабхараты (які заснаваў яшчэ Р. Тагор), у 1972 годзе прысвоіў М. Кемпэ чыннасць ганаровага доктара літаратуры.

Многае звязвала Мірдзу Кемпэ з Беларуссю. Яна была знаёмая з многімі беларускімі пісьменнікамі, падтрымлівала з імі сяброўскія адносіны, пісала пра Беларусь у латышскіх выданнях, перакладала вершы П. Панчанкі, М. Танка, С. Грахоўскага, М. Калачынскага. Ды й ва ўласных вершах яна пісала пра Беларусь, пра нашую гісторыю ("Сэрцу Беларусі", "Напалеон у Віцебску" ды іншыя).

Вось некалькі выказванняў Мірдзы Кемпэ з яе лістоў да Пімена Панчанкі: "Я пазнаёмілася з тваёй радзімай — з тваім добрым, светлым і мужным народам. Успамінаю ўсе аблічы, што прамільгнулі як трызненні ў Полацку, Віцебску, Мінску — твары пісьменнікаў. Я пачынаю плаціць свой доўг беларусам". У адным з вершаў М. Кемпэ напісала:

*Колькі ў гэтым сэрцы вернасці, спатолі.*
*Разам будзем вечна, у ростані — ніколі!*
*Дзіўнае, праўдзівае... Я здаўна імкнуся*
*Пад крыло сябрынае —*
*Сэрца Беларусі!*

Цешыць, што творчасць Мірдзы Кемпэ вяртаецца і застаецца ў Беларусі. Яшчэ адзін доказ таму — вечарына, прысвечаная ёй, якую ладзіць Таварыства "Беларусь — Латвія" ў Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі 19 лютага.

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ-ПІРОГ,**
**намеснік старшыні Рады**
**Таварыства "Беларусь — Латвія".**

## Два імя горада

Вуліцы, гарады і цэлыя краіны ў свеце маюць назвы, атрыманыя пасля іх каланізацыі ад новых гаспадароў. Такіх прыкладаў безліч і сярод іх — сталіца Вялікай Брытаніі, назву якой далі рымляне, заснаваны галандцамі Н'ю-Ёрк, беларускі Ігумен, пертвораны ў Чэрвень, названая па-расійску сталіца Чачні... Перайменаванні нават цяпер, у час пераменаў, адбываюцца рэдка, бо кожная з іх з'яўляецца падзеяй не толькі адміністрацыйнай, але найперш культурнай і палітычнай. Слушна будзе сказаць, што першым крокам да незалежнасці Казахскай савецкай сацыялістычнай рэспублікі стала не абвяшчэнне ёй суверэнітэту, а перайменаванне былой расійскай крэпасці Верны ў казахскі горад Алма-Аты.

Апошняя на тэрыторыі колішняй савецкай імперыі змена назвы сталіцы адбылася зусім нядаўна. 23 студзеня тагачасны прэзідэнт Чачні Зелімхан Ендарбіеў абвясціў аб сваім рашэнні надаць сталіцы рэспублікі новую назву. Згодна з ім горад атрымае імя асобы, якая ў чачэнскім грамадстве стала ўжо культавай, — Джахара Дудаева. Джахар гала — так мае называцца былы Грозны.

Аднак можна чакаць, што ідэя змены назвы горада не будзе ўспрынятая адназначна ўсімі чачэнамі. Перайменаванне горада шмат хто з іх успрыняў як ход у палітычнай гульні падрыхтоўкі да выбараў новага прэзідэнта. Для такіх людзей выкарыстанне прэзідэнтам краіны імя яго папярэдніка Дудаева, які загінуў у вайне за незалежнасць, не што іншае, як спосаб рэкламавання напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў асобы адносна мала папулярнага кіраўніка.

Таму пытанне, будзе мець сталіца Чачні чачэнскую ці расійскую назву, дагэтуль застаецца надзённым. Сёння, пасля яе гераічнай абароны на пачатку вайны, пасля таго, як малалікія чачэнскія байцы, адбіўшы летась у жніўні сваю сталіцу ў магутнай расійскай арміі і прымусіўшы гэткім чынам сесці з імі за стол мірных перамоваў расійскі ўрад, старая назва — Грозны — гучыць як напамін хутчэй не пра заваёву, а пра перамогу ў нацыянальна-вызвольным змаганні.

З другога пункту гледжання, ці можна сказаць, што чачэны далі сваю назву гораду, заснаванаму, пабудаванаму і ў значнай ступені населенаму расійцамі? Так, Грозны быў заснаваны ў 1870 годзе як расійская цвярдыня і названы так на страх непакорным тубыльцам. Але менавіта расійскай арміяй ён быў пертвораны ў папялішча праз 116 гадоў. Таму шмат людзей уважае: горад, узняты з руінаў чачэнскім народам, мае права насіць імя чачэна. Але ці будзе так, пакажа час.

## Адзін народ — адна мова

Гэты выпадак адбыўся ў Н'ю-Ёрку. Стары цёмнаскуры жабрак папрасіў белую дзяўчынку-школьніцу даць яму некалькі манетаў. "Я не маю грошай, адно жэтоны для метро", — пачуў той у адказ. Папракнуўшы малую скваппасцю, ён пайшоў прэч і раптам пачуў яе пакрыўджаны крык: "Я кажу праўду!"

Далей адбылося нечаканае: страшэнна засаромлены жабрак падышоў да дзяўчынкі і паміж імі адбылася наступная размова:

— Дык ты сапраўды не маеш грошай?! Даць табе дзесятку? Аддасі, калі зможаш.

— Дзякуй, не трэба.

— Усё адно: калі спатрэбяцца грошы, прыходзь да мяне — я пазычу. А калі мяне раптам не будзе тут, на рагу вуліцы, спытай іншых, дзе я — яны падкажуць.

Што стала прычынаю гэткага нечаканага павароту размовы і немагчымай для жабрака шчодрасці?

Дзяўчынка, якая з бацькамі прыехала ў Н'ю-Ёрк з Усходняй Еўропы і пайшла ў школу ў не надта прэстыжным раёне, вывучыла дзякуючы таму дзве мовы: english — англійскую, на якой вялося выкладанне ў школе, ішлі тэле- і радыёпраграмы ды black english — далёка не ўсім зразумелы жаргон яе аднакласнікаў з чорных кварталаў. На english яна адмовіла старому і выклікала яго недавер і крыўду. Затое black english стаў сапраўднай моваю паразумення для абаіх.

Чым ёсць black english — адхіленнем ад нарматыўнай англійскай мовы ці папярэднікам новай амерыканскай мовы, у якую памалу ператвараецца мова, прынесеная перасяленцамі з Вялікай Брытаніі? Філолагі ЗША не маюць адназначнага адказу на гэтае пытанне. Адны з іх актыўна выступаюць за чысціню мовы, другія з цікаўнасцю даследуюць працэсы зменаў, што адбываюцца ў english пад уплывам іншых — афрыканскіх, азіяцкіх, лацінаамерыканскіх і еўрапейскіх моваў, носьбіты якіх складаюць значную частку насельніцтва краіны.

У мностве школаў ЗША вядзецца выкладанне на мовах этнічных меншасцяў і ўжо адбыўся шэраг спробаў увядзення ў працэс пачатковай адукацыі black english. Гэтак было ў 1973, 1979, 1985 гадах. Апошні раз статус легальнай у адной з школаў black english паспрабавалі надаць летась, але без поспеху — мясцовыя ўлады не далі на гэта згоды.

Хто найбольш актыўна супрацiўляецца ўвядзенню black english ва ўжытак — белыя расісты? Многім гэта можа паказацца дзіўным, але ж не. Галоўныя працiўнікі ўсялякіх спробаў легалізацыі і ўнармавання гэтага жаргону — актывісты чорнай супольнасці ЗША. Яны нагадваюць: пакаленні іх продкаў доўгі час змагаліся за роўнасць грамадзян незалежна ад іх расы ці паходжання. Для іх легалізацыя black english — не што іншае, як крок да новага падзелу амерыканцаў на дзве супольнасці, падзеленыя моўна і культурна. "Марцін Лютар Кінг загінуў за тое, каб мы былі адным народам. Адзін народ — адна мова", — абвяшчаюць яны.

**Падрыхтаваў У.П.**

*Здарэнні*

# Гінуць за Расію, у трунах вяртаюцца на Беларусь

15 студзеня 1997 года быў звычайны планавы палёт знішчальніка-перахватчыка МІГ-31 у стратасферу. Экіпаж карабля ў саставе камандзіра Васіля Стрыжэннікава і штурмана Юрыя Шчэрбанёва — лепшых асаў — палка быў у добрым настроі: якраз напярэдадні афіцэрам іхняй эскадрыллі нарэшце выдалі палучку за лістапад мінулага года. З іншымі разлічыліся толькі па кастрычнік.

Не ведалі пілоты, што грошы пойдуць на пахаванне. Недзе ў раёне чыгуначнай станцыі Кулой на поўдні Архангельскай вобласці экіпаж раптоўна спыніў радыёабмен з наземнай службай, а затым са стратасферы, з вышыні 15 кіламетраў самалёт са звышгукавой хуткасцю абрынуўся ў балота. 15 тон газы, 25 тон металу і сучаснай электронікі выбухнулі і згарэлі. Разам з пілотамі, рэшткі якіх потым збіралі па наваколлі.

29 студзеня 1997 г. газета "Звязда" апублікавала матэрыял з адметным падзагалоўкам: "Беларусь праводзіла ў апошні шлях расійскіх лётчыкаў Васіля Стрыжэннікава і Юрыя Шчэрбанёва".

Так, з Архангельскай вобласці труны з рэшткамі паветраных асаў на ваенна-транспартным самалёце былі дастаўленыя ў Беларусь. Па жаданні ўдавы 33-гадовага капітана Шчэрбанёва Алены, труна з яговым прахам пахаваная ў г. Гародні.

Прах 32-гадовага маёра Васіля Стрыжэннікава дастаўлены на ягоную радзіму — у г. Горкі Магілёўскай вобласці.

Суцяшэнне ў гэтай сумнай гісторыі адно: раней, у часы Афганскай вайны, трунаў з целамі загінуўшых у Беларусь дастаўлялі ўвогуле шмат. Меней — у часе бойні ў Чачні. Нехта з беларускіх хлопцаў знайшоў сваю пагібель у Таджыкістане. Цяпер мэр Масквы і ягоныя паплечнікі падбухторваюць расійскую публіку забіраць ад Украіны г.Севастопаль, а то і ўвесь Крым. А Украіна — гэта не маленькая Чачня, а краіна са значным ваенным патэнцыялам і не меней за чачэнцаў моцным духам насельніцтвам. Так што не дай Бог, як гаворыцца, украінцаў зачапіць усур'ёз. І калі новы міністр абароны Рэспублікі Беларусь генерал Чумакоў гаворыць аб тым, што ідзе ўдакладненне ваеннай дактрыны "ў рамках узаемадзеяння ўзброеных сіл Расіі і Рэспублікі Беларусь", усё гэта ў спалучэнні з ваяўнічай рыторыкай Лужкова ды армейскімі трунамі ў Беларусь успрымаецца з пэўнай занепакоенасцю беларускім грамадствам. Няхай лепей мацуецца добрае мірнае суседства!

**Ул. Ас.**

Уражанні

# ЖЫВЕ НА АШМЯНШЧЫНЕ РОДНАЯ МОВА!

На першы погляд, поўная перавага ў нас забяспечаная расійскай мове, бо ёю карыстаюцца ў службовай сферы ва ўсіх установах і канторах ад начальніка да сакратаркі, а таксама медыкі, работнікі гандлю і г.д.

Але ўсё-такі нярэдка можна пачуць і нашу родную мову ды не толькі ад жанчын на рынку. Ёю карыстаюцца асобныя медыцынскія работнікі, як загадчык хірургічнага аддзялення Ашмянскай раённай бальніцы А.В.Белянкоў — у газеце, па радыё, на сесіі абласнога Савета. Мае пэўны ўжытак яна ў калектыве Ашмянскіх электрычных сетак, дзе ёю пастаянна карыстаюцца начальнік службы сувязі С.У.Карзан і некаторыя іншыя работнікі. Шырока ўжывае нашу мову інжынер-электрык ДСУ-28 У.М.Супрановіч. Ведаюць яе большасць службоўцаў Ашмянскага райвыканкама, бо сёння ўсюды працуюць мясцовыя кадры, як былы старшыня І, І. Рамаоўскі, яго намеснікі Р.Э.Вярцінскі, В.І.Яскель, загадчыца аддзела Д.А.Афанасенкава, старшыня райсавета І.К.Пляхімовіч і іншыя. Пры неабходнасці яны свабодна размаўляюць на беларускай мове. Больш моцная пазіцыя беларускай мовы ў аддзеле адукацыі райвыканкама, дзе загадчыкам М.С.Высоцкі, інспектар па кадрах А. П.Бурнас, арганізатар Г.І.Пішчык часта гавораць на беларускай мове, і ўся дакументацыя вядзецца на ёй.

Добрая падтрымка нашай мове ідзе ад раённай газеты. Яе супрацоўнікі амаль усе матэрыялы пішуць па-беларуску. Рэдактар, заслужаны работнік культуры Ю.І.Нікалаеў, ужо некалькі гадоў выпускае старонку "Роднае слова", на якой мы прапагандуем мову нашых продкаў. Пэўнае значэнне мае падпіска на беларускамоўныя газеты. На І квартал 1997 г. павялічылася яна ў "Звяздзе" на 50 асобнікаў і склала 414; дарэчы, "Сав.Беларусь" як ільготная павялічылася на 207 і мае 601 падпісчыка; павялічылася колькасць "Чырвонай змены" да 337, захавалі падпіску "ЛіМ" — 16, "Наша слова" — 46 асобнікаў.

Найбольш важную ролю ў адраджэнні і пашырэнні беларускага слова выконваюць школы. Яны ў Ашмянах захавалі добрыя пазіцыі. СШ №1 цалкам утрымала свой нацыянальны твар.У дзвюх сярэдніх і гарадской пачатковай школах у апошнія два гады адкрылі па 1-2 расійскамоўных класы ў кожнай паралелі ніжняга звяна, але палова першакласнікаў тут вучыцца на роднай мове. Адсюль патрабаванне бацькоў да ўлады, каб іхнія дзеці мелі магчымасць вучыцца ў ВНУ РБ на сваёй мове. Тады моладзь навучыцца не толькі размаўляць, але і думаць на роднай мове. ВНУ і Міністэрства адукацыі павінны ўмацоўваць гэту тэндэнцыю, а не разбураць.

Цяпер, калі расійская мова атрымала роўны статус з беларускай, беларуская як мова карэннай нацыянальнасці РБ мае поўнае права на павагу і пашану, а таксама падтрымку і дапамогу з боку ўсіх дзяржаўных органаў.

**Міхаіл ПУЗІНОЎСКІ, педагог-пенсіянер.**

г. Ашмяны.

# Веруем

## МАЛАДЫЯ БЕЛАРУСЫ ЗАЦІКАВІЛІСЯ ІСЛАМАМ

600 гадоў таму з'явіліся ў Беларусі першыя пасялішчы татараў, якіх запрасіў на дзяржаўную службу літоўскі князь Вітаўт Вялікі. Некаторая іх частка была захопленая ў палон пасля паходаў войска Вялікага Княства Літоўскага ў Крым. Смелыя і адважныя ваяры татары не раз паказвалі прыклады геразіму пры абароне беларускай айчыны. Узгадаем хаця б удзел татарскіх кавалерыйскіх харугваў у бітве пры Грунвальдзе. Паступова прыняўшы беларускую мову і часткова традыцыі, татары аднак упарта захоўвалі сваю мусульманскую рэлігію. Многіх навукоўцаў і даследнікаў і сёння захапляюць татарскія "Аль-Кітабы", напісаныя арабскай вяззю па-беларуску. Да сённяшняга дня татары, якіх у Беларусі засталося не шмат, прытрымліваюцца мусульманскіх звычаяў. Больш поўна распавесці пра жыццё ісламскіх абшчын я папрасіў галоўнага муфтыя мусульман Беларусі Ісмаіла Александровіча.

Беларускія татары, гаворыць Ісмаіл Мустафавіч, з'яўляюцца паслядоўнікамі суніцкага накірунку ісламу. Наогул суніты складаюць 90 адсоткаў вернікаў мусульман у свеце. Ад шыіцкага накірунку, які распаўсюджаны ў Іране, Іраку, Азербайджане і Таджыкістане, суніты адрозніваюцца толькі тым, што лічаць магчымым, каб духоўным аўтарытэтам у мусульманаў быў не толькі прамы нашчадак прарока Мухамэда, як таго патрабуюць шыіты, але і проста найбольш адукаваны і паважаны чалавек. Калі ў XVI стагоддзі на Беларусі жыло 200 тысячаў татараў і дзейнічала 60 мячэцяў, то да сярэдзіны XX стагоддзя татарская абшчына зменшылася да 15 тысячаў. Перад ІІ Сусветнай вайной у нашай краіне налічвалася 19 мячэцяў, частка з якіх згарэла пад час баявых дзеянняў, а частка была разбураная камуністычнымі ўладамі пасля вайны. Так, напрыклад, галоўную мусульманскую святыню Беларусі менскую мячэць бальшавікі высадзілі ў паветра ў 1962 годзе і на яе месцы пабудавалі гатэль "Юбілейны". Гэта цалкам упісваецца ў традыцыю барбарскіх нораваў тых часоў, калі на месцы разбураных бажніц узводзілі "аб'екты сацыяльна-бытавога прызначэння".

Са студзеня 1994 года дзейнічае рэлігійнае аб'яднанне мусульманаў Беларусі, у якое ўваходзяць 23 абшчыны, гаворыць муфтый Александровіч. Асноўная частка мусульманскіх парафіяў знаходзіцца ў заходніх абласцях краіны, дзе сярод людзей больш захавалася жывая вера. Ва ўсходняй частцы краіны існуюць толькі тры абшчыны — у Менску, Магілёве і Смілавічах, дзе мясцовыя вернікі на ахвяраванні адной мусульманкі з арабскай краіны набылі будынак пад мячэць. Улады вярнулі мусульманам іх маёмасць у Слоніме. Такім чынам, разам з Вейскай мячэццю, якая доўгі час заставалася адзінай мусульманскай бажніцай у Беларусі, зараз дзейнічае тры святыні. Пэўнае зацікаўленне рэлігіяй сярод татарскай моладзі назіраецца, гаворыць муфтый, ды й не толькі татарскай. У менскай абшчыне з'явіліся трое маладых беларусаў, якія свядома абралі мусульманства, ёсць і славянкі, якія прынялі іслам, пабраўшыся шлюбам з мусульманамі. З дапамогай амбасады Турцыі ў Менску ўдалося накіраваць трох маладых людзей на вучобу ў Стамбул. На іх муфтый ускладае вялікія надзеі, таму што выкладчыкаў навукі рэлігіі ў абшчынах практычна няма.

У парафіях не хапае і святароў-імамаў, таму іх абавязкі выконваюць самыя дасведчаныя і аўтарытэтныя вернікі. Наладжана работа некалькіх нядзельных школак, дзе моладзь вывучае татарскую і арабскую мовы, традыцыі ды асновы іслама. Беларускія мусульмане адкрытыя і для міжнароднага канфесійнага дыялогу з прадстаўнікамі іншых рэлігіяў. Адбываюцца кантакты з сродкамі і святарамі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Мусульмане вызнаюць як прарокаў Ісуса, Марыю, Майсея, таму асноваў для экуменічных кантактаў дастаткова. На маё пытанне — ці існуе ў свеце пагроза ісламскага фундаменталізму — спадар Александровіч адказаў, што фундаменталізм — гэта добрае выкананне патрабаванняў Карана і шчырая вера. Ніякай небяспекі іншым людзям такая з'ява не нясе. А любыя формы гвалту, тэрарызму для сапраўднага верніка ёсць грахом, гэта асуджае і прарок Магамэт.

**Янка БУЙНІЦКІ.**



## Да 190-годдзя з дня нараджэння Напалеона Орды

На картцы, прыклеенай да аркуша, дзе алоўкам намаляваныя гэтыя велічныя гмахі, Напалеон Орда напісаў: "Віцебск над Дзвіной. Старажытны горад, вядомы ў гісторыі ад 1021 года".

Прыглядзьцеся да гэтага малюнка. Злева — касцёл з дзвюма вежамі. З-за яго выглядае ратуша. Цераз вуліцу — не менш прыгожы касцёл бернардынцаў, справа ад якога двухпавярховы будынак бернардынскага кляштару. Так выглядала ў 1875-76 гадах частка цэнтра Віцебска, што за Віцьбай, мураваны мост праз якую відзён на пярэднім плане.

З таго часу захаваўся толькі будынак ратушы.

# НОВАЯ КНІГА ПРА Я. КУНЦЭВІЧА




У Віцебску напрыканцы мінулага года ў серыі "Таямніцы віцебскай гісторыі" пабачыла свет брашура М. Паўлава "Забойства Іасафата Кунцэвіча". Кніжка выйшла ў 400-я ўгодкі заключэння Берасцейскай Уніі (1596 — 1996). У гісторыі Беларусі гэтая падзея была актам арганізацыйнага аб'яднання Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. У выніку яе тады на Беларусі паўстала Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква. Стаўленне да яе гісторыкаў неадназначнае. Калі адныя лічаць яе адмоўнай з'явай, дык іншыя — станоўчай. Па ўсёй бачнасці, да ліку апошніх належыць і аўтар кнігі. Вось што ён на гэты конт піша: "...Вітаўт і прыхільнікі Уніі за сваю арыентацыю не на "трэці Рым", а на Заходнюю Еўропу атрымалі ў гісторыкаў "маскоўскай школы" адмоўную ацэнку.

Даўно пара асэнсаваць Унію з іншых пазіцый. Убачыць, што дала яна справе незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, суседам і гістарычным сапернікам якога была набіраючая моц Масковія..."

Аўтар сцвярджае, што ўзнікненне уніяцкай царквы на Беларусі павінна разглядацца як заканамерны аб'ектыўны вынік папярэдняга развіцця Беларусі. М. Паўлаў, такім чынам, разглядае гэтую гістарычную падзею, апісваючы некаторыя вельмі важныя для нас сёння падрабязнасці. Разам з тым ён гаворыць і пра тое, што папярэднічала Уніі, падае аргументы на яе карысць: "Унія засцерагла беларусаў і ўкраінцаў ад апалячвання і абмаскальвання. Грэка-каталіцкая царква знаходзілася пад апекаю не Польскай царквы, а непасрэдна Рыму..."

Галоўнае, пра што ідзе гаворка ў кнізе, — забойства вядомага царкоўнага дзеяча беларускага Сярэднявечча Язафата (у выданні — *Іасафата*) Кунцэвіча і тое, што папярэднічала здарэнню. Аўтар адзначае: "...ўвасабленнем Уніі стаў Іасафат Кунцэвіч. Аб ім узгадвае кожны, хто піша пра Унію, нягледзячы на тое, як ён сам да яе ставіцца. Раскрыццё ўнутранага духоўнага свету Іасафата Кунцэвіча значна дапаможа разуменню ролі, якую здзейсніў гэты чалавек у царкоўных падзеях свайго часу". Біяграфічных звестак пра Я. Кунцэвіча М. Паўлаў не падае, бо яны, па словах аўтара, добра апісаны ў іншых працах. Найбольшую ўвагу даследнік скіроўвае на першакрыніцы пра знаходжанне архібіскупа ў Віцебску, ягоныя адносіны з паствай. На думку аўтара, іерархі "...разыгралі пралог трагедыі" (забойства Я. Кунцэвіча). Рэч у тым, што ў 1621 г. Максім Герасімовіч (Мялецій Смятрыцкі) прыехаў у Вільню. Там ён звярнуўся да грамадства "не толькі словамі, але і пісьмом у друку пададзеным", нібы мае быць архібіскупам Полацкім, уладыкам Віцебскім і Мсціслаўскім. На гэтае ж біскупства ўжо прызначылі Я. Кунцэвіча. Акрамя таго, у "пралогу трагедыі" — скаргі на М. Сматрыцкага. Ён прывілеяў на біскупства не меў. Аўтар апавядае: "У 1620 годзе іерусалімскі патрыярх Феафан, вяртаючыся з Масквы, па настойлівай просьбе гетмана Сагайдачнага ва ўсе епархіі, узначаленыя іерархамі-уніятамі, высвеціў без дазволу караля неуніятаў, сярод іх і Сматрыцкага, на архібіскупа Полацкага. Гарнец вугалля выкінулі на салому... Кульмінацыяй гэтай надобрай справы сталася забойства Кунцэвіча". Цікавы і разгляд дакументаў судовага працэсу над забойцамі. Іван Гужнішчаў, што біў набатам у ратушны звон, даючы сігнал да бунту, — сярод абвінавачаных. Ратушу было загадана разбурыць. З усіх цэркваў, якія званілі, знялі званы. Віцебск пазбавілі магдэбургскага права, пасля чаго віцебчукі мусілі быць пад юрысдыкцыяй і ўладай віцебскага ваяводы. Як піша М. Паўлаў, "стаўленне да праваслаўных у Вялікім Княстве Літоўскім пасля забойства Кунцэвіча становіцца ўсё больш насцярожаным". У 1633 г. віцебскім мяшчанам урэшце вярнулі ўсе правы, прывілеі і свабоды, якіх яны былі пазбаўленыя праз забойства Я. Кунцэвіча.

Асобна разглядаецца ліст Л. Сапегі да Кунцэвіча ад 12 сакавіка 1622 года. На яго часта спасылаюцца як на сведчанне злых учынкаў апошняга. У выданні: *Сапунов А. П. Витебская старина (Документы и материалы). Т. 1. 1883.* гэты дакумент падаецца на расійскай мове ў перакладзе з польскай. М. Паўлаў лічыць, што арыгінал, які невядомы, павінен быў пісацца па-беларуску, бо факсіміле подпісу падаецца старабеларускім кірылічным скорапісам — Леон Сапега. Звяртаецца ўвага на такія выразы Сапегі: "...Жалобы, поданные русскими начальниками польским и литовским" (Паўлаў лічыць, што Сапега не мог ужыць такіх этнонімаў у такім спалучэнні, бо ў Княстве тады падданых Масквы звалі "маскавітамі", "масквіцянамі"), "Ваша уния,... пресловутая ваша уния" (як кажа аўтар, ці мог Сапега, адзін з бацькоў Уніі, такое пісаць?).

Акрамя таго, даследнік лічыць, што "пабудова ліста надзвычай груваcтая, разглядацца і аналізуецца кожны тэзіс Кунцэвіча, быццам піша не канцлер, а надзвычай спрактыкаваны палеміст". На думку аўтара, хутчэй за ўсё, Сапуноў рабіў пераклад не з арыгінала ліста.

Добра ілюстраваная кніга, выпушчаная малым накладам (1000 асобнікаў), вядома ж, стане бібліяграфічнай рэдкасцю. А жаданне з ёю пазнаёміцца, бадай, будзе шмат у каго.

**А. ГЛЯДАЛЬНІК.**



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч.*

## Беларускае адраджэнне

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# "ЛЕКСІКОН СЛАВЕНАРОСКІ. ІМЁНАЎ ТАЛКАВАННЕ" ПАМВЫ БЯРЫНДЫ (1627, 1653)

"Лексікон..." П. Бярынды мае каля 7000 слоўнікавых артыкулаў. Перад прадмовай старабеларускі кніжнік змяшчае панегірычны верш вядомага паэта XVII ст. (сябра культурна-асветніцкага гуртка архімандрыта Кіева-Пячэрскай Лаўры Елісея Плецянецкага) Тарасія Зёмкі "На старожитный клейнот их милости панѡв Балабанѡв"; ім жа прысвячае Памва Бярында і сваю працу.

Лексікаграфічны помнік складаецца з прадмовы "Широкій и великославный языкъ Славенскій..." і дзвюх частак: тлумачальна-перакладнога слоўніка "Лексікона..." і анамастыкона "Отъ еврейскаго, греческаго же и латінскаго, и иныхъ языковъ начынающчаѧс имена свойственнаѧ."

У "Лексіконе" прысутнічаюць элементы тлумачальна-перакладнога, энцыклапедычнага, этымалагічнага слоўнікаў. У "Лексіконе" рээстравае слова звычайна перакладаецца адным адпаведнікам або групай сінонімаў (*красота: оздоба; кровъ: домъ, стелѧ, покрытте, драгаръ , дахъ , намѣть; лѣто: врѣмя, рокъ, часъ, годъ, годище; риторъ: рѣчеточецъ, вѣтіа, хитрословецъ , красомовца, оратор*), ці пры дапамозе разгорнутага тлумачэння (*сотникъ: ротмистръ, старшій над стомъ; сноха: невестка, сынова жона; люботрудіе: працовитость, коханьесѧвъ працu*).

У І. І. Сразнеўскага, які заўсёды высока цаніў працу П. Бярынды, былі супрацьлеглыя меркаванні адносна характару мовы помніка. Вучоны слушна адзначаў, што "Лексікон" не можа разглядацца як толькі помнік царкоўнаславянскай мовы. У ім прадстаўлена ўсё багацце пластоў старабеларускай мовы: стараславянскі (**царкоўнаславянскі беларускай рэдакцыі**) з элементамі старажытнарускага кайнэ; **старабеларускі** (штучнакніжны) з іншамоўнымі лексічнымі, марфолага-словаўтваральнымі і сінтаксічнымі сродкамі; нарэшце, **старабеларускі**, размоўна-бытавога ўжытку.

Услед за Ф. Скарынам П. Бярында падае ў сваёй працы старабеларускую мову, якая грунтуецца не на пэўным дыялекце, а на разнастайным корпусе гаворак ВКЛ.

Як адзначае М. Р. Суднік, у "Лексіконе" П. Бярынды прысутнічаюць элементы акання і якання (*вытвараю, перамагаю, лѣта, рыцарства*), цвёрдае **р** і зацвярдзенне шыпячых (*писаръ, гончаръ, веровки, крукъ, на мору, отчичъ, родичъ, роскошъ, жолчъ, помочъ, мышъ*).

У сваёй працы старабеларускі кніжнік улічыў не толькі дасягненні сваіх папярэднікаў, але і ўключыў іх слоўнікі ў склад свайго "Лексікона":

| **"Лексіс... проста"** | **"Лексікон"** |
|---|---|
| бреніе — калъ, грязь | Бреніе: глина, болота, калъ, грязь |
| доблъ — крѣпокъ, мужественъ | Доблъ:сталый, мужественъ, крѣпкій |
| шуменъ — пьянъ, похмеленъ | Шуменъ: піанъ, похмѣлный, веселый |

| **"Лексіс" Л. Зізанія** | **"Лексікон"** |
|---|---|
| благодарный, подячливый | Благодарны(й), подячливый, благодарствен, |
| благодарствен, подячливый | въдячный |
| врачеваніе, лѣчьнне врачба, лѣчьнѣе | врачба, врачеваніе, лѣченье, лѣкарствъ даванне |

| **"Толкованіе неудобъ позна ваемомъ въ писаныхъ рѣчемъ" (1431 г. Ноўгарод)** | **"Лексікон"** |
|---|---|
| великодушенъ иже всяку скорбь пріражаюшуюся могы понести | Великодушен: иже всяку скръбь приражаюшуюся могій понести |
| художѣство хытрость | Художество умное: хитрость, ремесло, умъетность, наука книг |

У сваю чаргу "Лексікон" П. Бярынды значна паўплываў на далейшае развіццё айчыннай і замежнай лексікаграфіі. Епіфаній Славінецкі шырока выкарыстоўваў вопыт Памвы Бярынды пры складанні свайго "Лексікона трохмоўнага". Выдаўцы супрасльскага "Лексікона" (1722 г.) узялі з "Лексікона" П. Бярынды рэестравы склад для свайго царкоўнаславянскага слоўніка. Пазней у Супраслі выйшаў пераклад "Лексікона" Бярынды на польскую мову. У 1649 г. манах Мардарый з Козіі пераклаў слоўнік П. Бярынды на румынскую мову.

У другім выданні "Лексікона" Памвы Бярынды (1653 г.) ігумен Куцеінскага манастыра Іоіль Турцэвіч у прадмове да слоўніка высока ацаніў месца гэтай працы ў культуры славянскіх і праваслаўных народаў: "Лексіконъ якъ есть потребный и пожитечный многим". Вядомы даследнік славянскіх старажытнасцяў І. Сахараў надрукаваў "Лексікон" П. Бярынды ў ІІ-м томе "Сказаний русского народа" (Спб., 1849). У 1961 г. В. В. Німчук і калектыў аўтараў з Інстытута мовазнаўства імя А. А. Патэбні Акадэміі навук Украіны падрыхтаваў адаптаванае выданне "Лексікона" П. Бярынды з адпаведнымі каментарыямі і прадмовай.

У "залаты век" (XIV — XVII) старабеларускага пісьменства Заходняя Еўропа пазнаёмілася з многімі помнікамі духоўнай культуры ВКЛ, і тады вельмі часта ў Еўропе можна было ўбачыць кнігу, на якой было пазначана: перакладзена з "бѣлороссийскаго языка".

"Лексікон" Памвы Бярынды, "Сіноніма славенароская", якія задавальнялі шырока ўзрослыя патрэбы перакладу з старабеларускай на суседнія мовы, "Граматыка славенская", напісаная на лаціне для азнаямлення з айчыннай мовай народаў Еўропы, і іншыя старабеларускія помнікі яскрава сведчаць пра стан высокага росквіту беларускай літаратурнай мовы ў перыяд яе "залатога веку", напярэдадні фактычнай забароны і пазбаўлення статуса дзяржаўнай польскім сеймам у 1696 г.

## Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"

# Суседскія пераклады

*(Працяг.)*

*Зямля... зямля... туды, туды, брат,*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд...*
*На новы лад, каб жыць нанова...*
**Якуб Колас. "Новая зямля".**

Непрадбачаныя нягоды падрыхтоўкі перакладу "Новай зямлі" на расійскую мову не аднойчы крыжавалі выдавецкія планы. Паэма лёгка чыталася — была ж адмыслова выштукаваная. І гэтыя яе лёгкасць, уяўная прастата ды падабенства мовы прывабілі шмат каго. Але ніхто не мог давесці пачатае да канца. Спрычыніліся і нелітаратурныя праблемы. Урэшце сам Якуб Колас мусіў хапіцца крайняй меры. Мала было просьбаў да перакладчыкаў з сяброў, каб патлумачылі ў прадмове, што "паэма адлюстроўвае жыццё беларускага сялянства канца XIX стагоддзя". Аўтар "Новай зямлі" вырашае дапрацаваць свой твор.

Што гэта магло значыць для самога Якуба Коласа, для яго нага выпакутаванага твора? Словы пра "адлюстраванне" настройвалі чытача на зусім іншае ўспрыманне паэмы, яе літаратурнай і эстэтычнай вартасці. "Новая зямля" не магла адлюстроўваць жыццё, як не можа вада адлюстроўваць неба. Паэма сталася філасофскім роздумам пра чалавечы лёс, а праз гэта — пра лёс роду людскога і, наогул, свету. Паэма сталася эпічным аповядам пра чалавечыя — значыць, самыя вялікія, вартасныя — справы, бо нішто на свеце не можа быць важней за справы асноўнага Боскага тварэння — чалавека? І вось Якуб Колас ацаніў плён ягонага розуму, працы ягоных рук:

*Як бы сам Бог тут над зямлёю*
*Прайшоў і глянуў міласціва.*

Паэма сталася гімнам Творцу, які "ў адным суладдзі і настрою" з чалавекам робіць на зямлі цуды.

Ці можна ўявіць, што Якуб Колас, геніяльны творца, не разумеў сапраўдную вартасць паэмы? І тое, што аўтар "Новай зямлі" нідзе і слоўцам не абмовіўся пра значнасць свайго твора (а ён стаў упоруч з іншымі эпічнымі шэдэўрамі сусветнай літаратуры), не азначае недаацэнку паэмы. І мы ніколі не даведаемся, ці не паэтавай крывёю напісаныя такія спакойныя радкі ягонага ліста : "У паэме вялікіх змен няма. У некаторых раздзелах апускаліся невялікія кавалачкі. Часта да такой аперацыі (! — **З.С.**) звярталіся толькі таму, што асобныя мясціны былі не зусім удалыя, а зрабіць іх лепш не ўдавалася. Новых маіх уставак у паэме няма, за выключэннем дапісаных мною ў раздзеле 30 (апошнім) шаснаццаці радкоў..."

Кожны, хто чытаў "Новую зямлю", пагодзіцца, што раздзел "Смерць Міхала" — адзін з лепшых, калі не сама лепшы. Нельга без душэўнага болю чытаць тыя радкі, дзе Міхал перадае брату Антосю запавет — свой духоўны, не матэрыяльны (зямля ж яшчэ не набытая!), тастамант. З ягонага сэрца вырываюцца словы:

*Зямля... зямля... туды, туды, брат,*
*Будуй яе... ты дай ёй выгляд...*

Што яшчэ можна дадаць да гэтых радкоў? Але трэба было агледацца на тых, хто не толькі адлучыў чалавека ад зямлі, але гатоў быў знішчыць нат згадкі пра адвечную сялянскую мару: працаваць на сваёй зямлі.

І то была не простая праца, не праца нявольніка. То было тварэнне, тварэнне зямлі і залежнага ад яе жыцця. Не выпадкова Якуб Колас выкарыстоўвае словы будаваць у такім кантэксце. Нават не зважаючы на вельмі старажытны сэнс слова *будаваць*, карані якога — у мове першых земляробаўарыяў, здзіўляешся мэце, якую меў Міхал. "Дай ёй выгляд"!

Як адрозніваецца такая мэта Коласавага героя ад намераў сучасных земляробаў! Мо таму і няма шчодрай зямлі?

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

(*Заканчэнне будзе.*)

***Мікалай КРЫЎКО — беларушчына***
***Алена ШЧУКА — англійшчына***

# Слоўнік сінонімаў

**1. ПРАДКАЗАННЕ** (выказванне, што абяцае якія-небудзь падзеі, з'явы і пад. у будучым) *А праз год Макарка на ўвесь павет праславіўся прадказаннямі, — да таго злавеснымі, што дзе б ён ні паяўляўся, яго пачыналі баяцца, як агню* (Скрыган). *Эпічнаму паказу рэчаіснасці адпавядае і прыём аўтарскага прадказання, які ўжываецца ў рамане Пестрака даволі часта* (Хромчанка), **ПРАРОЦТВА** [*Вера*:] — ... *Можаш расказаць пра гэта брату. Няхай пацешыцца. Прароцтва яго збываецца* (Машара), **ВЯШЧУНСТВА** *Злым вяшчунствам выдавалася нечаканая смерць інспектара і ягоная, выпадкам падслуханая парада* (Самуйлёнак).

**Прадказанне 1.** Англійскіх адпаведнікаў два: **prediction** і **prophecy**. У адрозненне ад нейтральнага першага слова, **prophecy** бліжэй да бел. **прароцтва**, бо яно часта спалучаецца з рэлігійным або магічным сэнсам. Абодва словы з'яўляюцца пазычаннямі.

**2. ПРАДКАЗАННЕ** (заключэнне пра далейшы ход развіцця чаго-н., заснаванае на якіх-небудзь даных) *Прадказанне старога бакеншчыка спраўдзілася. Выйшлі мы раніцай з дому — на дварэ ціха, цёпла* (Ігнаценка), **ПРАГНОЗ** (прадказанне на аснове вывучэння чаго-н., на базе якіх-н. даных) *Яна* [*вясна*] *надышла нечакана, насуперак прагнозу, які дало бюро надвор'я* (Шамякін).

**Прадказанне 2**. У англійшчыне знаходзім таксама два адпаведнікі: **forecast і prognosis**. Лёгка заўважыць і матэрыяльнае супадзенне англ. **prognosis**, пазычанага з грэцкай мовы праз лаціну, з бел. **прагноз**.

**1. ПРАДКАЗВАЦЬ** (зараней выказваць якія-н. меркаванні пра тое, што будзе мець месца, адбудзецца з кім-, чым-н. пасля) *Біёлаг, тоўсты і добры Акім Акімавіч, прадказваў, што Надзя будзе здатным аграномам* (Аношкін), **ПРАДРАКАЦЬ** прыўзнятае *Усе, нават бацькі, прадракалі яму* [*Рыгору*] *хуткую смерць, — а ён — жыў і рос* (Шашкоў). *На прызбах па хатах перабіралі ўдоўж ды ўпоперак знатнае вяселле, спагадалі Зосі, успаміналі Рыгора, прадракалі маладым нецікавую будучыню* (Гартны), **ПРАДВЯШЧАЦЬ** прыўзнятае *Усе прадвяшчалі яму добрую будучыню. Добры пасеў дало слова матчына, што прадвяшчала пару няўхільную* (Арочка), **ПРАРОЧЫЦЬ** *Яшчэ ў школе Алік захапіўся гімнастыкай. Яму прарочылі вялікую спартыўную будучыню* (Дадзіёмаў). — *Праз два тыдні тваё імя будзе ўпрыгожваць усе інстытуцкія спісы! — прарочыць мне на развітанне Лазоўскі* (Васілевіч), **ВЯШЧАЦЬ** прыўзн. *Зязюля кукавала ў лесе і вяшчала людзям лёс* (Прануза) // (паводле забабонных уяўленняў: валодаць сілай прадбачання, таямнічымі ведамі і на іх аснове зараней гаварыць пра тое, што будзе) *Асабліва славутымі былі тыя свяцілішчы, дзе знаходзіліся аракулы, якія давалі розныя парады і прадказвалі будучае* ("Гісторыя старажытнага свету"). *Варажбітка прадвяшчала яму цяжкі лёс. Здавалася, тым голасам бог Адплату прарочыў з туману* (Колас). *Маёр. Ну як, гаспадар! Што там святыя кнігі прарочаць нам?* (Кучар). *Не буду слухаць варажбітак, што мне нядобрае вяшчаюць* (Грачанікаў). — *Закончанае трыванне:* **Прадказаць, прадрачы, напрарочыць** разм. — *Параўнайце:* П р а д в я ш ч а ц ь.

**Прадказваць 1.** Англійскія адпаведныя дзеясловы **predict**, **prophesy** паводзяць сябе, як і назоўнікі **prediction і prophecy** (глядзі вышэй).

**2. ПРАДКАЗВАЦЬ** (на аснове вывучэння і збору даных выказваць меркаванне пра далейшае развіццё чаго-н.) *Чым дужэй працуе сіноптык у адным і тым жа раёне, тым больш дакладна ён прадказвае надвор'е* ("Беларусь"), **ПРАГНАЗІРАВАЦЬ** спецыяльнае *Прагназіраваць надвор'е. Прагназіраваць новыя адкрыцці карысных выкапняў.* — *Зак.:* **Прадказаць.**

**Прадказваць 2.** У англійшчыне адпаведнік толькі адзін — **forecast**, які дакладна паўтарае форму назоўніка **forecast** (глядзі вышэй) як вынік так званай канверсіі.

## Жывое слова

# Дашчань

Неяк раз разгаварыліся з мамай пра салёныя агуркі, як іх соляць цяпер і як салілі даўней, пра іх смак. І мама кажа:

— Не зраўняць смак агурка з слоіка і з дашчаня...

Слова "дашчань" чуў у маленстве. Пасля — хіба толькі на занятках па гістарычнай граматыцы.

... Дашчэнту, дашчань, нашчадак...

І вось гэтае слова зноў прыгадала мама. Яно мне раптам падалося такім свежым, незацяганым, крамяным, хрумсткім, як сам той добра ўсолены з дашчаня агурок. Мама запрыкмеціла, што я на слова "дашчань" неяк засвяціўся. Яна тут жа патлумачыла:

— А даўней ніхто і ніколі не казаў "бочка" — толькі дашчань: "Купіла дашчань... Паставіла дашчань капусты". Дашчані былі большыя і меншыя. У меншых дашчанях капуста і буракі, палавінкі капусты з буракамі... На варыва... А ў вялікіх дашчанях, вёдраў на дваццаць-трыццаць, кіслілі толькі капусту, шаткаванку з палавінкамі. На дно клалі шаткаванку, вядры два-тры, хто як, можна і болей. А тады палавінкі. А калі качанчыкі былі невялікія, малыя, то клалі і цэлыя. А зверху зноў шаткаванку. Набівалі яе таўкачом. І кіслілі. І капуста доўга трывала. Хапала аж да вясновага Міколы. На Міколу капуста была. Палавінкі пад вясну аж саладзелі. Хрумсткія такія, сакаўныя... Зубы халадзілі. Возьмеш на зуб, дык зуб здаровіць.

От цяпер як падумаю — гэтак за зіму столькі капусты з'ядалі. А бывала ж ставілі, у каго сям'я вялікая, і не адзін дашчань.

Занатаваўшы ўсё, што мама расказала пра дашчані, капусту і агуркі, я, як заўсёды, зазірнуў у нашы слоўнікі. Найперш у Тлумачальны. І зразумела чаму. Там павінен быць грунтоўны адказ. Чытаю ўсё гняздо слоў з коранем "дашч". Яно, паміж іншым, не вельмі багатае: дашчанік — памяшканне, будыніна з дошак; дашчаны — зроблены з дошак. Дашчаны ганак, дашчаны тратуар. І ўсё. А вось свайго "дашчаня" ў Тлумачальным слоўніку я, на жаль, не знайшоў. Не знайшоў я яго і ў іншых, рэгіянальных слоўніках. А яно ж зусім не чужое нашай мове. Мае, як бачым, у нашай мове сваіх родзічаў, хай сабе і нешматлікіх, але, відавочна, крэўных.

Іван Насовіч таксама зафіксаваў у сваім "Слоўніку беларускай мовы" два словы з коранем "дашч". Гэта "дошчанка" — "дошчаник", деревянный ящик. Мѣра, содержащая в сѣбе извѣстное количество гарцевъ. Отмѣрив три дощаники.

**P. S.** Не гэтак даўно чытаў абразкі Святланы Лобач "Слязінкі лёсу" (ЛіМ, 10.01.97) і вычытаў у іх слова "дашчурачкі", "дашчуркі". Цытую: "Яловую лясіну возьме, *дашчурачкі* нашчапае, дзежку зложыць, абручы ўзгоніць і чысціць. Сядзе на лаўку, абжаргае дзежку і чысціць: *скабёлкай* з сярэдзіны, а зверху стругам".

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

